П. І. С і г е д а

# МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОЎНІКА БРЭСТЧЫНЫ

Дыялектны матэрыял, які ўвайшоў у наш слоўнік, быў запісаны ў апошнія гады (пачынаючы з 1968-га) у розных вёсках і раёнах Брэсцкай вобласці. Нам дапамагалі студэнты філалагічнага факультэта Брэсцкага педінстытута. Картатэка ўсяго слоўніка змяшчае каля 10 000 картачак, а ў гэту работу увайшла толькі адна дзесятая частка усіх слоў. Адабраны, як нам здаецца, найбольш цікавыя словы; тут пададзены слаба даследаваныя батанічныя тэрміны, выклічнікі, гукапераймальныя словы, бытавая і сельскагаспадарчая лексіка, лексіка рамёстваў і промыслаў, дэманалагічная і абрадавая лексіка.

Увесь дыялектны матэрыял падаецца у графічным запісу, прынятым у беларускай дыялекталогіі. Такі запіс, натуральна, не можа перадаць усіх тонкасцей вымаўлення дыялектных слоў. Напрыклад, у некаторых гаворках пад буквай "ю" можа скрывацца альбо дыфтонг [ýі] (гл.: з в ю д, в. Радзеж Маларыцкага раёна), альбо пярэдняе і-падобнае "у" (гл.: г р о м ю́ т н ы к, в. Трышын, якая злучылася з Брэстам); не абазначана вымаўленне напаўмяккіх зычных: напаумяккага р перад і і э закрытым у гаворках вёсак Радастава Драгічынскага раёна і Повіць Кобрынскага раёна (гл. словы: р э́ - б а, р і з а́ к, брікь, б р э́ ж э), напаўмяккага к перад канчаткам э (закрытым) у гаворцы Радастава (гл.: б а л я́ с к э, в е́ л к э); не размежаваны э закрытае і адкрытае ў радастаўскай гаворцы і г. д.

Адлюстравана ў работе толькі адна фанетычная асаблівасць: калі пасля загаловачнага слова ці пасля слова ў кантэксце ў квад-

ратных дужках падаецца знак звчнага гука, то гэта азначае, што гэты звчны ў слове перад "і" ці ётаванай буквай вымаўляецца (чытаецца) цвёрда.

Калі над словам два націскі, значыць яно вымаўляецца двояка: а) з націскам на адным складзе, б) з націскам на другім складзе (гл., напрыклад, б р у́ ш т э́ л ь).

Выбухны г абазначаецца літарай Ґ, ґ.

У большасці слоўнікавых артыкулаў падаецца мінімальны кантэкст, і толькі ў асобных артыкулах няма кантэкста.

Некаторыя словы не маюць поўнага тлумачэння (гл., напрыклад, тлумачэнні тыпу "назва нейкай птушкі", "назва нейкай расліны"), бо не было дастатковых звестак.

Літаратурныя (навуковыя) назвы раслін пададзены так, як яны прыводзяцца ў адпаведным індэксе ў кнізе "Определитель растений Белоруссии", Выдавецтва "Вышэйшая школа", Мінск, 1967.

Скарачэнні назваў вёсак (у дужках — назва раёна): Б. — Басячы (Кобрынскі), В. — Вулька (цяпер злучылася з Брэстам), Д. — Дывін (Кобрынскі), К. — Кругель (Камянецкі), Кл. — Клецішча (Кобрынскі), М. — Мельнікі (Маларыцкі), Мот. — Моталь (Іванаўскі), Мош. — Мошкавічы (Бярозаўскі), Н. — Навасёлкі (Камянецкі), НП. — Новая Папіна (Драгічынскі), П. — Павішчe(Кобрынскі), Пуг. — Пугачова (Брэсцкі), Р. — Радастава (Драгічынскі), Рд. — Радзеж (Маларыцкі), С. — Сялец (Кобрынскі), Ст. — Страдзеч (Брэсцкі), Т. — Татарнавічы (Драгічынскі), Тр. — Трышын (цяпер гэтая вёска злучылася з Брэстам), Ш. — Шумакі (Брэсцкі).

Іншыя скарачэнні: адз. л. — адзіночны лік, бат. — батанічны тэрмін, безас. — безасабовы, выкл. — выклічнік, гукаперайм. — гукапераймальнае слова, дзеепрым. — дзеепрыметнік, дзеясл. — дзеяслоў, дзіцяч. — з дзіцячай лексікі, ж. — жаночы род, карт.

-- жартоўнае слова, заал. -- заалагічнае, зак. -- закончанае трыванне, зборн. -- зборны назоўнік, злучн. -- злучнік, зневаж. -- зневажальнае, кулінарн. -- кулінарны тэрмін, м. -- мужчынскі род, малод. -- ужываецца ў мове малодшага пакалення, міф. -- міфічнае, мн. л. -- множны лік, н. -- ніякі род, наз. скл. -- назоўны склон, незак. -- незакончанае трыванне, няэм. -- няэменнае слова, павеліч. -- павелічальнае слова, паляўніч. -- паляўнічае, памянш. -- памяншальнае слова, прым. -- прыметнік, прысл. -- прыслоўе, рэдк. -- рэдка ўжывальнае, рэліг. -- рэлігійнае, с.-г. -- сельскагаспадарчы тэрмін, сталярн. -- сталярная справа, стар. -- ужываецца ў мове старэйшага пакалення, толькі адз. -- толькі адзіночны лік, толькі мн. -- толькі множны лік, у зн. -- у значэнні, устар. -- устарэлае, фам. -- фамільярнае, фраз. -- фразеалагізм, часц. -- часціца, эўф. -- эўфемізм.

А́ВО прысл. Тут. А́во га́ і я́во га́. Р. ("Тут літара "а" і вось тут літара "а". Так мяне папраўлялі вучні, калі я рабіў свае запісы.— П. С.).

АБНЯ́КЫЙ прым. Неахайны. С то́го дя́тькы смія́лыся, бо ві́н абняќый (нэоха́йный). Рд.

А ГЫ́-ЛЯ̀! (з асаблівай інтанацыяй і з пабочным націскам на другім складзе) выкл. Воклiч, якім падганяюць гусей. Р.

А ГЫ́ШЬШЬШЬ! А ГЫ́ШЬШЬШЬ! А ГЫ́ШЬШЯ̀-А-А! выкл. Так адганяюць курэй і куранят. Р.

АЛЭ́! часц. 1. Няўжо?! (перапытанне са здзіўленнем). -- Чу́ла? Марі́я вроды́ла хло́пця. -- Алэ́! Рд. АЛЭ́-Э? Р. 2. Так (сцвярджэнне з адценнем здзіўлення). -- Ка́э, ты́, ба́бо, ху́тко вмрэ́ш. -- Алэ́!

Алэ! М. З. А як жа! (з ацценнем абурэння). Та я ны бачыв, алэ! ("Быццам я не бачыў!", "Нібыта я (гэтага) не бачыў!" Вымаўляецца пасля паўзы, прычым энергічна, коратка). Р.

АЛЭ Ш? часц. (пытальная). Няўжо. — Я ны піду с тубою! — Алэ ш? (Вымаўляецца з асаблівай інтанацыяй: на А павышэнне тону, на Э — паніжэнне). Д.

АНЫВЖЭ Ш часц. (сцвярджальная). Так, безумоўна (з ацценнем адзіўлення). — І тэ худэв? — Анывжэ ш. (Часцей гавораць: АНЫВЖЭ Ш НЕ.) Д.

АЦЮ-У-У! выкл. Так адганяюць свіней. А ну цушов, ацю-у-у! ацю-у-у! Д.

БАБУРКЫ (адз. л. б а б у р к а (?)) бат. Порхаўкі. Рд.

БАВЭЛ м. Белыя ніткі. Мот.

БАВЭЛОВЭ м. Саматканае палатно для рушнікоў з белых фабрычных нітак. Мот.

БАЛАХОН м. Няўмела пашытая, шырокая і доўгая адзежа. Т.

БАЛЯСКЭ толькі мн. Штыкеты. Ужэ старэйі баляскэ. Р.

БАПКА ж. бат. 1. Трыпутнік. Кл. С. 2. Асавік, падасінавік. Д. 3. кулінарн. Бабка, бульбянік на ўсю скавараду. Д.

БАРАК м. Хвоя, сасна (адно дрэва). У мове старэйшага пакалення можна пачуць форму б а й р а к ы — сосны. Ст.

БАРАНОЧКЫ толькі мн. бат. Мальва пагрэбаваная. Бо в йій малюсынькі бараночкы. Тр.

БАРХАН м. Белы матэрыял. У магазін прівезлэ разнуго бархану. Р.

БЭІК м. Дужа запальчывы, псіхічна няўроўнаважаны чалавек. Пуг.

БЗІ́К м. Стан узбуджэння жывёлы ў час спёкі, калі паяўляюцца авадні, сляпні; гізаванне. Бзі́к на курувы́ нападэ́. В.

БЗІ́КУВАТЫСЯ дзеясл. Запальвацца, выходзіць з сябе. Ві́н шэ до́вго бзі́кувався. Пуг.

БЗЭ́ЧКЕ прысл. Ратуючыся ад укусаў сляпнёў, аваднёў. Тэлу́шка побі́гла бзэ́чке. П.

БЗНІ́КА ж. Паслён. С.

БІ́ГМА выкл. Далібог. П.Р. Бі́гма я́ ны каза́ла стуго́. Р.

БІНА́МНЭ катэгорыя стану. Усё ро́ўна. А мі́ні біна́мнэ. Р.

БІ́ЯНКА [б] ж. Бойка, маслабойка. Р.

БЛАГА́Я прым. ж. Дрэнная, нізкая (пра плату). Блага́я пла́та. Б.

БЛАГЭ́НЬКИЙ прым. памянш. Дрэнненькі. Благэ́нькый сто́лык. Б.

БЛА́ЗЬНЯ ж. Тая, што многа гуляе, позна вяртаецца дадому. Р.

БЛЕ́ХА ж. 1. Скаварада. На бле́хе пяклэ́ путпа́лкэ (гл.). Р. 2. Форма з бляхі для выпечкі хлеба. Д.

БЛЁ́ШОК м. Дэталь самапрадкі — маленькае колца, якое знаходзіцца каля шпулькі і перадае ёй рух вялікага кола. Блё́шок — кото́ры шпу́лю закру́чуе. Н.

БЛУ́ДНА ж. Прыблуда (жанчына). Прыйшла́ до на́с у сэло́ одна́ блу́дна. Пуг.

БЛУДЫ́ТЫ дзеясл. Памыляцца. Хто́ пыта́е, то́й ны блу́дыть. В.

БЛУ́ТАТЫСА дзеясл. Блытацца (пра ніткі). До́брэ рыдкійі (гл.) роспраўля́й, коб осно́ва нэ блу́таласа. Мот.

БЛЫЖНЭ́Й прым. Дождж, які ідзе працяглы час. Р.

БЛЫ́ШНЫК м. Палын. Блы́шнык ве́льме смярды́ть. Р.

БЛЭ́НТАТЫСА дзеясл. Гл. б л у́ т а т ы с а. До́брэ трыма́й ры́дкійі (гл.), коб пра́жа нэ блэ́нталаса, бо пото́м до то́лку нэ дойдэ́мо і ны́ткі порвэ́мо. Мот.

БЛЮ́ШЧЫТЫ дзеясл. Заплюшчваць (вочы). Блю́шч, блю́шч о́чі, бу́ду лы́ты во́ду! Рд.

БОГАТЫ́Р м. Багатыр, багацей. Ву́н богаты́р — в Амэ́рыцы бу́в, понаво́зыв доля́ров. Ш.

БО́ДНЯ ж. 1Скрыня, у якой соляць на зіму сала. Ст. 2. Пасудзіна, дзе захоўваецца мука. Насэ́пала мукэ́ у бо́дню. Р.

БО́Ж'Я РУСА́ ж. бат. Назва расліны, з якой плятуць вянкі і свяцяць іх. С.

БО́НДА ж. Булачка з пшанічнай мукі. Д.

БОНДА́РКА ж. Тонкая палоска жалеза. НП.

БОШКАТЫ дзеясл. Вохкаць, крычаць, прымаўляючы: "Ой бо́жэ ш мы́й, бо́жэ!" Д.

БОЯ́РЫ толькі мн. Шаферы (на вяселлі). Рд.

БРІ́КЬ м. Авёс, які бралі каню ў дарогу. Р.

БРОХОТНЯ́ ж. Стукатня, грукатня. Вы́дно, шо шэ́ нэўда́лая тка́льля, бо наробы́ла набы́лыцэмы брохотні́ на ўсю́ ха́ту. Мот.

БРУКО́ВЫНЕ н. толькі адз. Лісце бручкі. М.

БРУСЛЫ́НЫ толькі мн. Брусніцы. С.

БРУ́ШТЭ́ЛЬ м. (наз. скл. мн. л. б р у ш т э́ л і). Жалезны канічны абручык, які ахапляе з кожнага канца (іх па два на адным коле) корпус калодкі у коле воза. Бруштэ́лі, шпы́цы, о́буд — і бу́дэ колэ́со. Рд. (Відавочна, з ням. *die Brückstelle* "месца злому, злом").

БРЭ́ЖЭ толькі мн. Частка галаўнога ўбору, які надзяваюць сващі на вяселлі. П.

БУГА́ТЫЙ ВЭ́ЧУР м. Вячэра перад Новым годам. М.

БУДЫ́НКІ толькі мн. Гумно. А буды́нкі у на́с называ́лы клу́ня. Тр.

БУ́ЙМЭ выкл. Гл. б і г м а. Бу́ймэ пра́ўда! В. Бу́ймэ ны зна́ю

то́го сло́ва. Пуг. Бу́ймэ ны пожыну́ с тубо́ю курувы́. Рд.

БУ́КАЧ м. Кій з патоўшчаным канцом, якім паганяюць жывёлу. Рд.

БУЛО́ТО н. 1. Мокрая сенажаць. Р. 2. Балота. Д. 3. Сена з мокрай сенажаці, г. зн. з "балота". Да́в куро́вэ було́та. Д.

БУЛЬБО́ВНЫКЬ м. кулінарн. Бульбя́нік. Р. БУЛЬБО́ВНЫК Д.

БУНДУ́Р м. Комін. Ст.

БУ́ЛЬКА ж. Бурбалка. Д.

БУ́НЬКА ж. Бурбалка, бурбалачка. Бунькы́ выхо́дять — бу́дэ до́ж до́вгый. Тр. Бунькэ́ становлю́оця на калю́жынэ. Р.

БУР'Я́Н м. Бура на возеры. Яка́ бу́ра вэ́йшла, трэ́ба втыка́тэ з во́зэра. Р.

БУ́РКАЛА толькі мн. Частка ткацкага станка — драўляныя блочкі, прымацаваныя да верхняй перакладзіны, якія рэгулююць становішча нітоў. Ну й до́брыйі бу́ркала вы́йдуть з клёна, алэ ёго́ трэ́ба напэ́рш просушы́ты. Мот.

БУ́СЬКЭ ужываецца толькі ў размове з дзецьмі ў фразеалагізме "да́тэ бу́сько" (ва ўсіх яго формах): — Да́й, Ко́лька, бу́сько. Г. зн. : — Пацалуй, Коля, мяне. Д.

БУ́СЬНЯВКА ж. Буслінае гняздо. Кубло́ йіх называ́йітця бу́сьнявка. Рд.

БУ́ТЭ дзеясл. 1. Быць. 2. Жыць. Як ны умру́, то бу́тыму. Д.

БУ́ХМАРОК ж. Воблака, воблачка. Р.

БУ́ХТА ж. 1. Яма, напоўненая вадой. М. 2. Гразкае, непраходнае балота. Ну й бу́хта! Ны пруйдэ́ш. Д.

БЫ́ГМА Гл. б і г м а. Бы́гма ны піду́ ныку́дэ. Д.

БЫЁ́НКА ж. Д. НП. Гл. б і я́ н к а.

БЫ́ЛО н. Спінка ложка. НП. С.

БЫЛЫЦЫНЯ́ТА мн. л. Дзіцяняты вавёркі. Рд.

БЫ́ЛЬЦЯ ж. Вавёрка. Рд.

БЫ́ЛЬЦЭ н. Кожная з давюх гарызантальных жэрдак у драбінах воза. Тр.

БЫРНЭНЯ́К м. бат. Падбярозавік. С.

БЫРЭ́МО н. Бярэмя (дроў), ахапак (сена). К.

БЫЯ́НКА ж. Мош. Гл. б і я н к а.

БЭ́РВА ж. Кладка (дошка, бервяно для пераходу). Д.

БЭРЭ́МНЕ н. Мош. Гл. б ы р э м о.

БЭ́ЦЮ-БЭ́ЦЮ-БЭ́ЦЮ-БЭ́ЦЮ выкл. Так падзываюць цялят. Д.

БЯЗДУ́ШНЫК м. Тоўчаная бульба з фасоляй. Прынэсэ́ міні́ бязду́шныка. Р.

ВАВЮ́РКА ж. Мош. Гл. бы́льця.

ВА́ЖНЫ прым. Цяжкі. Коб чо́ўнык бу́ў зро́бляны з клёну, дру́гэ ді́ло було́ б, а то гэ́той бы ка́мэнь ва́жны. Лэ́дьвы шо ўволоклы́ ў ха́ту ўдво́х становы́ны (гл.), гэ́такійі воны́ ва́жныйі. Мот.

ВАЗО́НЬНІК м. Вазон. Тр.

ВА́ЛКО н. Качалка, на якую накручваецца палатно для качання. Ва́лко і кача́лко. В.

ВБЭ́ТЫСЬ дзеясл. Прычапіцца (пра хваробу). От вбэ́лась хвуро́ба, ныя́к ны вэ́лызу. Д.

ВГРІ́БАТЭ дзеясл. Акучваць (бульбу). Бу́льбу вгрі́бають сапа́чкою. Р.

ВЕ́ЛКЭ толькі мн. Драўляныя вілы з двума рагамі. Ве́лкэ бэрэ́ та й сі́но на вэ́шкэ закыда́е. Р.

ВІДЬМА́Р м. Вядзьмар, чарадзей. Пуг.

ВІ́КО н. Накры́ўка вядра або каструлі. НП.

ВІ́ТКА ж. Пладаносная частка сцябла проса ці аўса. Р.

ВІТРЯНКА ж. бат. Назва расліны, кветачкі якой маюць форму сэрцайкаў, сцяблінкі як у жыта, тоненькія. С.

ВІШЭР м. Гл. в ы ш я р. Ідэм кусэтэ вішэр. Р.

ВІЯЛКА ж. Драўляны савок, якім веялі ўручную. Р.

ВКЭЛАВЫТЭ дзеясл. Надарвацца, атрымаць грыжу. В нас в сусіткэ малэй впав і ны чырыз довго вкэлавыв. Д.

ВЛОПАКЫ прысл. рэдк. Хутка. Побіг влопакы. С.

ВО постпазіцыйная абмежавальная часціца. Вось. Гэндэ-во ўзьмэ. ("Вось там вазьмі"). Зара во. ("Вось зараз"). Р.

ВОВНЯХА ж. бат. Ваўнянка (грыб). С.

ВОВЧАКЫ толькі мн. С., ВОВЧЫКЭ толькі мн. (ужываецца радзей, чым КУЛЮЧКЭ — гл.). Кл. Ваўчкі трохраздзельныя.

ВОЛОТУЗЬТЫСЬ дзеясл. Дурэць, валтузіцца. Нэ волотузьтэся коля кросён, бо наробытэ мні там лыха, потом нэ розбэруса. Мот.

ВОРОНОВЭ ЖЫТО н. бат. Нарасць на жыце, спарыння. Вуны сынювато-чорныйі. С.

ВРІХЬ м. Паласа засеянага збожжа або бульбы. Вріхь — зэмня між рузорэмэ, у вріхувэ 15 - 20 бурузэнь, дэ вышшое полэ, на высокому; ек вріхэ роблять, то сіють бульбу, ны садять. Р.

ВСІЕК прысл. Усяляк, па-рознаму. Вуна всіек скажэ: і пунімэцку, і пу-цыганску. Р.

ВУЕ н. с.-г. Гарызантальная калодка, якая утварае корпус сахі; дышаль сахі. Рд.

ВУЗДРО н. Ніжняя частка снапа. Р.

ВУСА толькі мн. бат. Асцюкі. Р.

ВУСУКА ж. Сена з забалочанай сенажаці. Р.

ВУСЯЛКА ж. Шнур для дзіцячай калыскі. Вусялкэ в кулэсцэ вяльме слабейі. Р.

ВУТКАЧ м. Назва птушкі. Вун ўсё крычыть: вуть-вуть-вуть-

ву́ть. Рд.

ВХЫ́ТЧЫНА ж. Наваселле. Д.

ВЫБЭ́НДЮВАТЫ дзеясл. Капрызіць, перабіраць. Шо́ ты ту́т вы- бэ́ндюйіш, йі́ш шо даю́ть. С.

ВЫ́ВОРОТ м. Вывараценъ. Бу́ра хво́ю с корінььям вывэрнэ, со́сны вы́вальть. Рд.

ВЫГНЁСТЫЙ прым. Выгнуты. Стру́г (гл.) бува́е выгнё́стый. Цуг.

ВЫЗЫ́ЛЭЦЬ м. бат. Бяро́зка палява́я. Зі́льле, свы́ны до́брэ йі- дя́ть. В. Ві́н спліва усё́. Тр. (У Тр. яно ўжываецца часцей, чым п а в у́ й к а — гл.).

ВЫ́КАРАЧЫТЫ дзеясл. Выпучыць (вочы). І чого́ ты́ вы́карачыў о́чі ( [ч] )! Рд.

ВЫ́ЛКЫ толькі мн. Вілкі (руск. "ухват"). Рд.

ВЫ́ЛОЧКЫ толькі мн. Дугападобная дэталь калаўротка, замацаваная на той жа восі, што і шпуля. Служыць для раўнамернага намотвання нітак па ўсёй шпулі. Рд.

ВЫ́ЛЯК м. Назва птушкі. Жыво́ вун насырэд буру́ў. Бу́р — высо́- кэ мі́сцэ, пороcля́ така́, дэ хвуйі́на рустэ́. Рд.

ВЫ́ПУСТОК м. Выпустак, аднагадовае цяля. Тыля́ — мало́е, до го́да, а якэ́ на пэ́ршу па́шу йдэ́ — то то́е вы́пусток. Рд.

ВЫРЫТЁНО н. Вертыкальны шпянёк, на які насаджваецца верхні камень у жорнах. Вэ́рхній ка́мінь хо́дыть на вырытё́нові. Рд.

ВЫ́СКЫРКА ж. Назва нейкай калючай травы. С.

ВЫСОКО́СЬТІ (ужываецца толькі такая форма). Вышыні. Мэ́тыр два́тцять высоко́сьті, мэ́тыр шыроко́сьті. Рд.

ВЫ́СПА ж. Насып зямлі ўздоўж рова, канала. Д. С. Ру́вы дэ ку- па́ють — там вы́спу насыпа́ють. С.

ВЫ́СТАНОВЫТЫ ДУ́ШУ фраз. Выняць душу, г. зн. забіць, атправіць на той свет. Ты́йі зло́дыйі гро́шы забыру́ть, шэ й ду́шу выста-

ноўлять. Рд.

ВЫСТРА́ХУВАТЫ дзеясл. Страшыць, пагражаць. То́й п'я́ный, а то́й твыро́зый, Хвыдо́сь. То́й выстра́хуе, а то́й ка́жэ — ны бо́юся. Рд.

ВЫ́ХАРАШАНЫ дзеепрым. Кастрыраваны. То́й, шо вы́харашаный, называ́йіться ку́нь, о́ґыр — ны хара́шаный. Рд.

ВЫ́ХАРАШЛЯНЫЙ дзеепрым. Гл. в ы́ х а р а ш а н ы й. Жыры́бэць — кото́ры вы́харашляный, а о́ґыр — то "кавале́р" (Жарт інфарматара). Пуг.

ВЫ́ЧАВКА ж. Нізкае месца, нізіна, дзе, як ідзеш басанож, вада струменіцца з-пад пальцаў. До́ждік пруйшо́в, і як іде́ш, то вуда́ цю́ркае с-пуд ні́х [н], выча́влюйіцця. С.

ВЫ́ШАР м. бат. Тлумачэнне інфарматара: рызу́ча трава́. С.

ВЫ́ШЯР м. Сена, якое падсцілаюць карове. Рд.

ВЭДЬМА́Р м. Мош. Гл. в і д ь м а́ р.

ВЭ́ЛКЭ толькі мн. Р. Д. Гл. в е́ л к э. Вілкі (руск. "ухват"). Д.

ВЭ́ЛЮН м. Вэлюм, фата для нявесты. Ст. Т.

ВЭ́ПУСТОК м. Цяля ад аднаго да двух гадоў. Д.

ВЭ́РТЯГА ж. Вялікая гліняная міска. Вэртяга — така́я мы́ска высо́ка була́ чырыпля́на, глы́няна. Му́й ді́д ўзя́ў засвыты́ў сві́чку, звэ́чору поста́выў, вэ́ртягою нату́лыў. Рд.

ВЭРЭТУ́ЗЫТЫ дзеясл. стар. Мыць бялізну. Ст.

ВЭРЭ́ТЫЯ ж. Невялікі астравок сушы сярод балота (сотак 20).Р.

ВЭ́СМАГНУТЭ дзеясл. Зрабіцца густым (пра варыва), уварыцца. Капу́ста в пычы́ гэ́ть вэ́смагла. Д.

ВЭ́ХВУРЫТЭ дзеясл. Прахварэць доўга. Я́ стуго́ ро́ку два́ мі́сяцэ вэ́хвурыла. Д.

В'Я́ЗОК м. Брус, які злучае драбіны воза. НП.

ГА́ВО часц. Тут, вось тут. Га́во ві́н. Р.

ҐА́ҐА́ЎКА ж. зневаж. Шыя; гарляк. Плю́нула юму́ пуд ґа́ґаўку, пут шы́ю. Рд.

ҐА́ҐНУТЫ дзеясл. фам. Памерці, сканаць. Та́к налякаў мыне́, шо я́ чуть ны ґа́ґнула. Рд. Я́ тоді́ чу́ть ны ґа́ґнула. Пуг.

ҐАҐОТІ́ТЫ дзеясл. Гагатаць (пра гусей). Гу́ска, гуса́к, гусыня́та бу́льші ґаґотя́ть. Рд.

ГАЛЁ́ВКА ж. Скураное колца, якое злучае дзве часткі цэпа. НП.

ГА́ЛЬ ж. Бязлесая прастора, мясціна без карчоў. Рд.

ГАЛЬВА́ ж. (наз. скл. мн. л. г а л ь в ы́). Дэталь бараны — хамуцік для умацавання кожнага зуба. Р.

ГА́ЛЬКА ж. Ніжняя спадніца з фабрычнага матэрыялу з карункамі. Т.

ГАЛЬНО́ н. Рд. Гл. г а́ л ь.

ГА́ЛЯ ж. Непакрытая лесам мясціна на балоце. Р.

ГАНЬБУВА́ТЫ дзеясл. Грэбаваць. Ганьбу́еш мно́ю, мэ́ю хато́ю. Рд.

ҐАНДЗЮРА́ ж. Гл. ґ а́ ґ а ў к а. Чулуві́к то́й подолі́ў во́ўка, колі́нком ёго́ прыдуші́ў, шчэ́ лі́пшэ прытягну́ў і різану́ў нужэ́м по ґандзю́рі. Рд.

ҐА́РА ж. Драўляная скрыня, якая адпавядае памерам воза, у якой возяць сыпкае рэчыва. НП.

ҐА́РНЭЦЬ м. Кашолка, якой мераюць што-небудзь сыпкае. П.

ГЕА́ ж. Мера даужыні асновы, якую падрыхтоуваюць для ткання. Пуг.

ҐЕРҐОТА́ТЫ дзеясл. Невыразна гаварыць, мармытаць. Шо ты там ґерґо́чэш? П.

ГЛЫ́НЫШЧЭ н. Глiністая глеба. НП.

ГНЫ́ДНЫК м. бат. Зоркаўка сярэдняя. Рд.

ГНЯЧКЕЙ прым. Гнуткі. П.

ГО часц. 1. узмацняльная. Вось. Ой то баба добрая: шоп то маты так мыла отако го о! А гочы ў ейі нывылычкі, зарошчуны ў шэрсці, а ушка такыйі ну го маленькыйі. А лапы пырідніійі пуза-ростаны, як у качкы, помыжы тымы го пазурямы доўгымы. О одэ го (даслоўна: "вось тут вось")! Рд. 2. пытальная. А? Батьку, го батьку! Зробы мні доброго і хорошого вэрстата. Ма, го ма! У мэнэ мусыть ужэ быльш чысныць получылоса, чым трэба. Мот.

ГОЛЁСА ж. Балота ў лесе. Лэдь пруйшлы чэрэз тую голёсу. Рд.

ГОЛОВНЕ ж. бат. Чорныя зярняты проса. НП.

ГОЛЮНКА ж. Галёнка. Корч (гл.) зайшоў у голюнку. Рд.

ГОМЗІТЭ дзеясл. Гугнявіць; гамзаць. І чого тэ гомзэш? П.

ГОРАБ м. бат. Рабіна. Рд.

ГОРАБОК м. Рабчык. Горапкы есць ў лісы. Рд.

ГОРОБЫНА ж. бат. 1. Рабіна. 2. Рабіннік (лес). Рд.

ГОРЭНЬ м. Ніткі для вышывання. Дай горэню маронянуго (гл.). Р.

ГОСТРЫЙ прым. Рэзкі, халодны (вецер). Такый гострый вітюр, до кісток пробырае. Рд.

ГОСТЫНЫЦЬ ж. Грунтавая дарога між населенымі пунктамі. Пуг.

ГОСТЫНЭЦЬ м. Дарога паміж вёскамі. Ш.

ГРАБЫНА ж. бат. Рабіна. Пуг.

ГРАБЮЎ [б] прым. Грабовы. Пынёк можэ буты грабюў, ольхуў, ясынюў, дубовы. Рд.

ГРАЦКА ж. 1. Матыка. 2. Матыка-трызубец для акучвання і ка-пання бульбы. Ее яшчэ называюць г р а ц к а з у б а т а. Есьть зубастыйі грацкы. Грацкою картошку осыпають і зільле гра-цують. Тр.

ГРАЦОВА́ТЫ дзеясл. Цяпаць матыкай. Гра́цка — зі́льле грацова́ты. Тр.

ҐРА́ЦОЧКА ж. памянш. ад г р а́ ц к а (гл.), але можа абазначаць тое ж самае, што і слова г р а ц к а. РУЧНА́Я ҐРА́ЦОЧКА — матыга-трызубец невялікага памеру. Тр.

ГРОМА́ДА ж. Куча (чаго-небудзь). НП.

ГРОМЮ́ТНЫК м. бат. Дуброука серабрыстая. Гро́му дыты́на злякáлась — путкады́ громю́тныком. Тр.

ГРОШО́ВАЯ ГО́ЛКА ж. Шаршатка. Т.

ГРУ́Д м. 1. Сухая сенажаць. 2. Сена з сухой сенажаці. Мэ́ на груду́ кусэ́лэ. Да́в куро́вэ груда́. Д.

ГРУДО́К м. Сухая сенажаць. Ра́ньче называ́лы грудо́к — рю́мный сіноко́с: ны боло́тына, ты́лько пры було́ты устрово́к. Ра́ньче ны каза́лы сыножя́ть, а грудо́к; скосу́, ка́э, ўсёго́ грутка́. Рд.

ГРУДО́ЧОК м. памянш. ад г р у д о́ к (гл.). Грудо́чок стойі́ть в було́ті. С. На грудо́чку копа́ла карто́плі. Б.

ГРУ́МА ж. Гурба, сумёт. Рд.

ГРУННІ́ЦЫ толькі мн. рэліг. Грамніцы. Рд.

ҐРУ́НТ м. устар. Зямельны надзел — 22 дзесяціны. Ґру́нт зымлі́: у ґру́нтові було́ два́тцать дві́ дыся́тыны. Рд.

ГРУ́Т м. 1. Гл. г р у д о́ к. 2. Сена з сухой сенажаці. У тэбэ́ груда́ буга́то, булутнэ́йі вусукэ́? Р.

ГРЫБЭ́ЦЬ ж. Грабец (зграбае сена граблямі). НП.

ГРЫ́ВА ж. Нешта сярэдняе паміж сушай і балотам. Гры́ва — ны то гру́д, ны то було́то: на груда́ ны путхо́дыть і на було́то ны путхо́дыть. Р.

ГРЫ́ВА ж. Верх саломенна страхі. З мятэ́йі соло́мы натяга́ють гры́ву. Поло́жыв ко́зла такы́йі, шоб ві́тёр ны звэрну́в мні всю гры́ву. Тр.

ГРЫМІ́ТНЫК м. бат. С. Гл. г р о м ю́ т н ы к.

ГРЭБІ́НКА ж. Частка ў граблях, у якую насаджаны зубцы. Р.

ГРЭ́БЛЫШЧА толькі мн. Грабільна. Р.

ГРЭ́БЛЯ ж. 1. Дарога у выглядзе насыпу сярод лесу. НП. 2. Дарога з насыпу, пракладзеная цераз балота. Ровы́ копа́ють і насыпа́ють доро́гу — называ́етця грэ́бля. Рд.

ГРЭ́ВА ж. Касмык травы на скошанай сенажаці. Р.

ГРЭ́ТКА ж. Частка ўзаранай зямлі, града. П'я́ть — ші́сьть бурузэ́нь, набі́льш ші́сьть. Грэ́тку рубэ́тэ, бу́льбу садэ́тэ. Ек грэ́дэ ро́блять, то са́дять бу́льбу, а ек врі́хэ (гл.), то сі́ють. Р.

ГРЭ́ЧКА ж. бат. памянш. ГРЭ́ЧЫЧКА ж. Драсён павойны. Тр.

ГРЮ́М [р] м. Шаравая маланка. Влыті́в у ха́ту і вылыті́в грю́м. Тр.

ГРЯ́БАТЫ дзеясл. Грэбці (сена). Йдэ́м сі́но гря́баты, косы́ты. Ш.

ГУ́БАЎКА ж. бат. (наз. скл. мн. л. — г у б а ў к ы́). Грыб, які расце на ствале дрэва, гу́ба. Рд.

ҐУБЭЛЬТО́ВЭ ШКЛО́ мн. Падвойнае, дубальтовае шкло. Р.

ҐУБЭЛЬТУ́ЎКА ж. Дубальтоука. Рд.

ГУДУВА́ТЭ дзеясл. 1. Гадаваць. Ді́тэ гудува́тэ. 2. Вырашчваць. Лі́з гудува́тэ. 3. Расціць. Ко́сы гудува́тэ. Р.

ГУДУ́ВНЫЙ ОБІ́Д м. Памінкі праз год. М.

ГУДЭ́НА ж. 1. Гадзіна. За гудэ́ну я́ вырну́ся ду ха́тэ. 2. Час, пара. Тувді́, як я́ бу́в мулудэ́м, ны така́я була́ гудэ́на. 3. Надвор'е. Ну й гудэ́на: суба́кэ на двы́р ны вэ́жыныш. Д.

ГУ́ЖЫК м. Высокая разьба на вале, які прыводзіць у рух шасцярню сячкарні. О́сь, на усі́ гу́жык. Рд.

ҐУ́ЗЫКЬ м. (наз. скл. мн. л. — ґ у́ з ы к э). Гузы пад скурай на хрыбце у каровы, каня. Р.

ГУЛО́ н. Кут, куток у пакоі. По́ўбывае кулки́ у гулі́, у однэ́му гулі́ і ў друга́му. Рд.

ГУЛУВЭНЬКА ж. Галавешка. Глянь у пічı гулувэнькы шэ е? Рд.

ГУЛУТЭЧА ж. Беднасць, галеча. Д.

ГУЛЬ-ГУЛЬ-ГУЛЬ! выкл. Так падзываюць гусянят. Рд.

ГУЛЬЛЯ толькі мн. Вулей. Одны гульля. Рамковы гульля. Выходять руйі з гульлюў. У гульлёх молодыйі маткы ны выходять. С туго самогогульля (дзіўная форма!) выходыть рой ўтурак. Рд.

ГУРЭІЛКА ж. Горла. Ст.

ГУРІТЧЫК м. Месца каля хаты, дзе раней вырошчвалі толькі кветкі, а цяпер — усякую агароднінy. М.

ГУРІЧІК м. Агародчык каля хаты для вырошчвання расады. Р.

ГУРЧАК м. бат. Гарчак жоўты (?). Рд.

ГУРЫЧЬЧІК м. Агародчык, кветнік. К.

ГУСКА ж. бат. Гарлачык белы. Кл. ГУСКЫ толькі мн. С.

ГУСКЫ толькі мн. Асот агародны (Cirsium oleraceum Scop.). Рд.

ГУСОВЫ прым. Асінавы. Дустрэнчылы (гл.) люды забыты дырку гусовым кулочком. Рд.

ГЫБЭЛЬ ж. перан. Процьма, безліч. Напышэ чортову гыбэль. Болотіў гыбэль е, до гыбылы тых болотюў [т]! Рд.

ГЫДЫТЫ дзеясл. Ганіць; ганьбіць, знеслаўляць. Як начала гыдыты — ізгыдыла ту бабу. Рд.

ҐЫЗУВАТЫ дзеясл. Гізаваць. Началы быкы танцоваты так, як высною од ґэзу (та як од ґэзу — ґызуе скотына), хвусты пуддэрлы догоры. Рд.

ГЫЛЯ, А ГЫЛЯ выкл. Так адганяюць гусей. Д.

ГЫША-ГЫША! выкл. Так адганяюць курэй. Рд.

ГЭБЛЫК м. Гэбель. НП. Р. Рд.

ҐЭЗ м. Гл. б з і к. Рд. Кантэкст гл. у артыкуле ґ ы з у в а т ы.

ГЭ́НДЭ прысл. Там. — Дэ́ мудуто́к? — Гэ́ндэ лэжэ́ть. Р. (У гэтай гаворцы часцей ужываецца прыслоўе т а́ м).

ГЭ́ТЬ прысл. Зусім. Гэ́ть вуна́ до́бра. Р.

ГЭЦЬКІ́В'Е н. Поле пасля грэчкі. Р.

ДВОЙЧАКІ́ толькі мн. НП. Гл. в е́ л к э.

ДВОРУ́ШНІК м. Рубанак з дзвюма бакавымі ручкамі, які прызначаны для працы ўдвух. Рд.

ДВУГҐОТУНКО́ВЫЙ прым. Двухсартавы. Молоча́й бува́е двугґотунко́вый — на горо́ді і на ло́нцы. Тр.

ДВУРЭ́ЦЬ м. Двор каля хаты. Ст.

ДВУХСТОРО̀НЬНЁГРЫ́ВНЫЙ прым. З грывай на два бокі. Двухсторо̀ньнёгры́вый ко́нь [к]. Тр.

ДЖЮ́ГАТЫ дзеясл. Шоргаць, шаркаць. Ідэ́ і джю́гае чубутьмы́. В.

ДЗВОНЯ́К м. Б. Гл. з в о н я́ к.

ДЗЯ́ВКАТЫ дзеясл. Брахаць надрыўна, дакучліва (пра сабак). Соба́ка дзя́вкае на ко́гось. Пуг.

ДЗЯ́ЛКА ж. Участак, які апрацоўваецца адным работнікам у калгасе ці саўгасе. М.

ДЗЯ́МАТЫ дзеясл. Гаварыць пустое, абы-што. І чого́ ты дзя́майіш! Рд.

ДЛЯТО́ГО злучн. Усё-такі, усё ж такі. Мэ́ вжэ ду́малэ, шо тэ́ ныко́лэ ны пра́дыш ду на́с, шо убі́дівся мы́цно, а тэ́ длято́го прышо́в. Д.

ДО́ТЫКІ толькі мн. Ніткі, якія адразаюць ад асновы пасля ткання. Хва́тыть ткаты, бо на другі́ ра́з до́тыкі малы́йі бу́дуть, шо нэ бу́дэ до чого́ осно́ву на́вэть прыв'яза́ты. Мот.

ДОХОПЫТЫСЯ дзеясл. Пацхапіць, падчапіць якую-небудзь заразную хваробу. І дэ вуна ёго дохопылася, того сіфулоса, бог ейі відае. Рд.

ДОЧЭСНЭ прым. мн. л., наз. скл. Якія нядоўга жывуць на свеце, заўчасна паміраюць. Людэ дочэснэ сталы. П.

ДРАПАКУВАТЫ дзеясл. Культываваць (поле) прымітыўным культыватарам (гл. д р а п а к ы). Драпакы — драпакують полэ для збожы. Рд.

ДРАПАКЫ толькі мн. Невялічкі жалезны прымітыўны культыватар, які цягнуць коні. Рд.

ДРАПАЧ м. Дзяркач. Ст.

ДРАЧЭНЬНЕ н. Пілаванне. Д.

ДРОКВА ж. Глушэц (птушка). Вуна вылыка, йіх ны мныго е. Рд.

ДРОНОК м. Ручка лапаты. НП.

ДРУСЁН м. бат. Драсён звычайны. Тр.

ДРЫГУТКА ж. Дрыжыкі. Мош.

ДРЫПАЧ м. Драўляная барана. НП.

ДРЭҐАВКА ж. (р напаўмяккае). Ямкі на дарозе, ухабіны. П.

ДРЭНЧЫТЭ дзеясл. Мучыць, даймаць. От дрэнчыть вжэ кутору пору ста хвуроба, ныяк ны пулішаю. Д. Фразеалагізм: НЫ ДРЭНЧЫТЬ ТЫБЭ = "нядрэнна табе жывецца". Шэ тыбэ ны дрэнчыть, кулэ в такый хурошый удэжэ ходыш. Д.

ДУЖАК м. Асілак. Дужак — дужый чоловік. Рд.

ДУЛЭНА ж. Голая лапіна на засеяным полі, на нізкім, мокрым месцы, калі збожжа не паўсходзіла. Дулэна, тілько [т] на нэскуму, дэ вуда стуяла. Р.

ДУСТРЭНЧЫТЫ дзеясл. Нараіць. На другый дэнь моюй матыры дустрэнчылы людэ ў пулувыны дня ўзяты свячоного маку, забыты дыр-

ку гусо́вым куло́чком, осыпаты круго́м моги́лу і ха́ту. Рд.

ДУТЫНА́ТЭ дзеясл. Упікаць; дакараць. Чуго́ тэ мыні́ дутына́йіш сі́тым, я́ ж ны вынува́т. Д.

ДЫВЧА́ТНЫК м. Малады чалавек, хлопец, які аддае перавагу таварыству дзяучат. Ст.

ДИ́КЫЙ ГОРО́ШОК м. бат. Гарошак мышыны. Тр.

ДИ́КАЯ МО́РКВА ж. бат. Цьмянец цыкутавы. Тр.

ДИ́КЫЙ ШЧАВУ́Х м. Шчаўе малое (шчаўялёк). Тр.

ДИ́НЯ ж. бат. Гарбуз. В. М. Пуг. Рд. Ш.

ДИ́НЬКА ж. бат. Адно семя гарбуза, сырое або смажанае. М.

ДЫРЖА́К м. Чапяла. Д.

ДЫСЕ́ТУХА рэліг. Святкаванне дзесятай пятніцы пасля вялікадня. Д.

ДЫТЮ́К м. Дзіця (хлопчык). Колы́шка для дытюка́. Вы́дры булы́ б дытюка́ зайі́лы, я́ґбы мы́ ны пуба́чылы. Рд.

ДЭ́БЭЛЬ м. Вялікі ручны свердзел. Р.

ДЭРКА́Ч м. Венік. Мош.

ДЭ́РЭВО н. Драўляная палачка для моцнага сціскання перавясла. Вуна́ снупа́ з'язуе, пэрэвэсло́ стяга́е дэ́рэвом. Р.

ДЯ́ЛКА ж. Р. НП. Гл. д з я́ л к а. У́ся дя́лка пузаро́стала. Дна́ дя́лка бура́ків, кукуру́зэ. Р.

ЕҐ БА́Ч прысл. Хутка, скора, як бачыш. Еґ ба́ч прувіра́йімо лістэ́. Р. ("Хутка правяраем старонкі",— так гаварылі вучні, якія папраўлялі транскрыпцыю маіх запісаў).

Е́ГУДА ж. бат. Адна ягадка чарніц, чарніца. М. Д.

Е́ГУДЭ толькі мн. бат. Чарніцы. Кл. Р.

Е́ДРА толькі мн. Семячкі сланечніку, гарбузоў. Йі́стэ е́дра

("Лузаць семячкі"). Р.

Е́НЫЙ м. Іней. Р.

Е́РЫЦЯ ж. с.-г. (ужываецца часцей, чым я́ р ы ц я (гл.)). Ярыца, яравое жыта. Р.

ЕСЁ́НКА ж. Асенняе паліто. Рд. Т.

ЕСКРЫ́НА, Е́СКРЭНА ж. (наз. скл. мн. л. е́ с к р э). Іскра. Р.

Е́ТЫЛЫНА ж. Дзікая канюшына. Д.

ЖВЫ́КАТЫ дзеясл. Характэрна гучаць — "жвы́к-жвы́к" (пра нітку у пустой трубачцы, якая служыць для матання пражы). У ха́ты стоя́ла тышына́, оно було́ чу́ты, як жвы́кала ны́тка ў юрко́вы. Мот.

ЖКУ́ЧЫТЫ дзеясл. фам. З'есці з прагнасцю. Ві́н ужэ всэ́ жку́чыв. С.

ЖУЛО́ н. Джала. У чмэля́ жуло́ е. Ву́н вытяга́е ты́йі жо́ла з ногы́. Рд.

ЖУНЬЧЫ́СЬКО н. павеліч. ад. ЖУ́НКА ж. І дэ́ тылько ўзяло́сь тако́е жунчы́сько! Рд.

ЖЫЛІ́ЗНЫК м. Жалязняк, лапата. М. Ст.

ЖЫЛЫ́ЗНЁК м. НП. Гл. ж ы л і́ з н ы к.

ЖЫ́СТЫЙКО н. клічная форма ў выразе м о я́ ж ы́ с т ы й к о! Моя́ до́лыйко, моя́ жы́стыйко! Рд.

ЗАБА́ВЫТЫСЯ дзеясл. Затрымацца. Тро́хэ пустуе́ла с сусі́ткыю, то́ й заба́вылася. Д.

ЗАБУРСА́ТЭ дзеясл. Зашнураваць. Да́й, сыно́к, забурса́ю чыры-вэ́кэ. Д.

ЗА́БЫГЭ тольки мн. (ужываецца радзей, чым з а́ к ы т к э (гл.)). Нахіл на саннай дарозе, куды заносіць сані. Р.

ЗА́КЫТКЭ тольки мн. (ужываецца часцей, чым з а́ б ы г э (гл.)). Р.

ЗАВЯ́ТЫСЬ дзеясл. Завязаць хустку. Ст.

ЗАДА́ВНЫТЭ дзеясл. Зацягнуць хваробу, доўга не лячыцца. Зада́вныла я́ свую́ хвуро́бу, навра́д чы пулі́пшаю. Д.

ЗА́ДНЯ ХА́ТА ж. Пакой у хаце, дзе стаіць печ, дзе ядуць, г. зн. пакой, які знаходзіцца далей ад вуліцы. Рд. Пуг.

ЗАЖЕ́ЛА тольки мн. Пачатак жніва. М.

ЗАГНА́ТЫ дзеясл. безас. Замаляваць, замазаць (вокны марознымі узорамі). Пузагане́е че́сом ла́сыцямэ, зажэнэ́, шо й шкла́ ны вэ́дно. Р.

ЗА́ЙЦЁВЫЙ ГРЫ́П м. бат. Жоўцевы грыб. Ві́н ы гуркы́й такы́й, як чо́рт. Рд.

ЗА́ЙЦОВ ГРЭ́Б м. бат. Жоўцевы грыб. Кл.

ЗА́ЙЧА КАПУ́СТА ж. бат. Заячая капуста. С.

ЗАКЛЕ́КЛЫЙ прым. Схуднелы. Шо́сь наш Ва́ся зусі́м ста́в закле́клый, ны йі́сьть нычо́го. Д.

ЗАЛІ́СКО н. 1. Лапата, жалязняк. 2. Драўляная акованая лапата (цяпер іх няма). Р.

ЗАЛІ́СНЭ прым. н. Месца, якое пакрыта лесам. Олёс (гл.) — у лі́сы заны́жэнэ, залі́снэ. М.

ЗАЛО́Х м. с.-г. Цаліна. НП.

ЗАЛУЖЭ́НЬНЕ н. рэліг. Дзень заснавання мясцовай царквы; ён прыраўніваўся да рэлігійнага свята. Д.

ЗАЛЫ́ЎКЫ тольки мн. міф. Варыва ведзьмы. Ві́дьма залы́ўкы залыва́ла: ўрэ́дні залы́ўкы залы́е, бы кро́ў; чы та́м на тэ́бэ зро́быть, цы на дытя́ зро́быть, шо ўмрэ́. Рд.

ЗАЛЯ́СКО н. Лапата. Р.

ЗАМУДРІ́ТИ дзеясл. Заэнацца, заганарыцца. Ну́, ты замудрі́ла, нэ хо́чэш здоро́укатыся.

ЗА́ПІК м. Лаўка, па якой узлазяць на печ. Ма́ня ста́ла на за́пік. Р.

ЗАПО́ЙІНИ толькі мн. Распіванне віна пасля таго, як жаніх і нявеста распішуцца ў загсе.

ЗАПО́ЙІНЭ толькі мн. Абрацавая вячэра ў доме нявесты за некалькі тыдняў да вяселля. Д.

ЗАПО́РЫЩЭ звычайна толькі мн. Людзі, якіх на вяселле не запрашалі і якія застаюцца за парогам глядзець на вяселле. П.

ЗА́ПЫК м. Невялікія козлы, якія стаяць каля самай печы і трымаюць разам з другімі такімі ж козламі, што далей ад печы, дошкі, на якіх спалі калісьці. Рд.

ЗА́ПЫЧОК м. Насціл каля печы з дошак, якія клалі на невялікія козлы-падстаўкі. На гэтым памосце калісьці спалі. В за́пычковы спа́лы. Ві́н з до́сок зро́бляный: ко́зликы ста́выш, на ны́х до́скы, сі́дныка клаңэш соло́мэю набы́того і спы́ш. Тр.

ЗАРЫГОТІ́ТИ дзеясл. Заржаць. Ку́нь зарыготі́ў. Рд.

ЗАСІ́ВКИ толькі мн. Пачатак сяўбы азімых. М.

ЗАСТАНУ́ВЭТЭ дзеясл. Запыніць, спыніць (аўтамашыну). Застанувэ́ ма́шэну! Р.

ЗАТОПЛЯ́ТЫ дзеясл. Запальваць (газавую пліту). Пуйду́ вжэ затопля́ты, трэ́ба шо́сь зва́ры́ты на вэчэ́ру. Тр.

ЗА́ТУЛКА ж. Фартух. Я пушэ́ла хуро́шу за́тулку. Р.

ЗАТУ́ЛЭЦЬ м. Клінок, якім замацоўваецца каса на касільне. Тр.

ЗАХО́Т м. Палоска, якую займае адна жняя. НП.

ЗАХРЫ́ПЧАНО дзеепрым. у ролі выказніка ў безасабовым сказе. Ато́ захры́пчано ту́тай лушпе́камы, скі́лько мны́го людэ́й було́. М.

ЗАШКОРУ́ГНУТЫ дзеясл. Пакрыцца ледзяной скарынкай. Зэмля́ зашкору́гла, бурунува́ты ны бу́дыш. Тр.

ЗАШЧЫПНУ́ТЫСЯ дзеясл. Зашпіліцца. Зашчыпны́ся до́брэ, бо зы́мно. В.

ЗБА́НОК м. Збан. П. Рд.

ЗБАНО́К м. 1. Збан. Б. В. Мош. НП. П. Ш. 2. Эмаліраваная пасудзіна з ручкай, у якой носяць малако, малочнік. Тр.

ЗБУЙ́ІТЫ дзеясл. Вельмі разрасціся на ўгноенай глебе (пра гародніну). Бу́льба збуйі́ла, бурако́ збуйі́лы. Р. Карто́плы збуйі́лы, буе́ть. М.

ЗБЫ́ВАЧКА ж. (наз. скл. мн. л. з б ы в а ч к ы́). Папярочкі, якія злучаюць с т а в ы́ — дзве рамы ткацкага станка. Рд.

ЗВІ́Д м. Жураўель у студні. У нас шэ звода ныма. Р.

ЗВОНЯ́К м. Асобная частка вобада (чацвёртая ці шостая частка вобада). Пуг. Тр. Рд. Звоняки́ ро́блять з быро́зы. Кулэ́со ро́быться з звунякуу́. Рд.

ЗВЫ́ЎННЫЙ прым. Вёрткі, жвавы. Спо́рт на вуді́ пока́зують: і дычу́ята спорцмэ́ны такі́ звы́ўны. Б.

ЗВЫ́Д м. Студня з жураўлём: толькі замест жураўля — кола на жалезнай трубе. Д.

ЗВЮ́Д в м. Вочап у студні з жураўлём. Рд.

ЗГОЛО́ВОК м. Частка воза: верхняя драўляная частка перадка і задка (тое, што над пярэдняй і задняй воссю). Пэрэ́дній зголовок і за́дній зголо́вок. Тр.

ЗГУЛО́ВОК м. Рд. Гл. з г о л о́ в о к.

ЗГЫ́НКОМ прысл. Нагнуўшыся, прыгнуўшыся. І вуна́ та́к йшла́ згы́нком. Рд.

ЗДМУ́Х м. Дрыгва, хісткое месца на балоце. П.

ЗДО́ХЛЫВЫ м. Хваравіты (чалавек). Вошэ́ я така́ долі́ґатна,

здохлы́ва яка́сь. Рд.

ЗДРО́ н. НП. Гл. в у́ з д р о.

ЗДЫ́МКЫ толькі мн. 1. Дрыгва, непраходнае месца на балоце. 2. Паверхня раслiннага покрыва на балоце, якая успухае, узнімаецца. Такі́ зды́мкы, шо курувы́ тупы́лысь. Зды́мкы — дэ здыма́йіться мо́х, трава́. С.

ЗЕ́БЛЫВО ж. с.-г. Зябліва. НП.

ЗЖУ́ЧЫТЫ дзеясл. фам. Украсці, сперці. І то́й зло́дый вжэ дэ́сь часы́ зжу́чыв. С.

ЗІЛЁ́НКА ж. бат. Зялёнка (руск. зеленушка). Б.

ЗЛАМА́ННЫЦЯ ж. Ужываецца толькі ў выразе: Шо́п ты пушо́в на злама́нныцю! (даслоуна: "Каб ты пайшоў туды, дзе ламаюць рукі і ногі"). С.

ЗЛЮ́Г Й м. с.-г. Аблога, абложная зямля. Трэ́ба кыда́ты горо́да на злю́г. Рд.

ЗНАЁ́МО прым. ці катэгорыя стану. Вядома. С.

ЗНА́ТНЫ прым. Вядомы. Всі́ так ка́жуть — гладіо́лусы, воны́ зна́тныйі. Тр.

ЗНО́СНЫЙ прым. Так гавораць пра лес, у якім растуць высокія і роўныя дрэвы, пра выносны лес. Хоро́шый лі́с, зно́сный, бэз сучкі́ў. Рд.

ЗО́РКА ж. бат. Гвазд3іка турэцкая. Тр.

ЗРЫ́БЛЯНА дзеепрым. ж. Так гавораць пра касу з няроўнасцямі на яе палатне ад няумелага кляпання. Ны вмі́ў клэпа́тэ, рэ́бу загна́в — от і ста́ла куса́ зрэ́бляна. Р.

ЗУЗУ́ЛЬЧЫН РУЧНЫЧО́К м. бат. Ятрышнік (зязюлька) плямісты. Кл.

ЗУМЭ́СЛЭ прысл. Наўмысна. О́т зумэ́слэ ны бу́ду гувурэ́тэ з йі́м. Д.

ЗЫКРА́ТЫ прым. З вялікімі вачыма. Ву́н вэ́льмы зыкра́ты. Рд.

ЗЫЛЁНКЫ толькі мн. бат. Н. Гл. з і л ё н к а.

ЗЫЛІ́НКА ж. бат. С. Гл. з і л ё н к а.

ЗЫЛІ́СКО н. Ражучая металічная пласцінка ў розных рубанках, гэблях. Рд.

ЗЫЛЫНЭ́ЦЯ ж. бат. Кл. Гл. з і л ё н к а.

ЗЫЛО́ н. 1. Расліна (агульная назва раслін). 2. Зелле. Пану́вій — зыло́. З зыла́ ро́блять ві́дьму: закру́чують зыло́м до́брэ, попуд рука́мы, скру́зь. Рд.

ЗЫЛЮ́НКА ж. (наз. скл. мн. л. з ы л ю н к ы́). 1. бат. Гл. з і л ё н к а. 2. Парашок для фарбавання сцен у бледназялёны колер. Да́й мні тры́ па́чкы зылю́нкы. Рд.

ЗЫ́МНЫК м. Дарога праз балота, па якой ездзяць зімой. Трэ́ вэ́йіхатэ на зы́мнык і пуйі́хаты по зы́мныку. Р.

ЗЭЛО́ н. Рд. Гл. з ы л о́. Із зэла́ скру́тять чолові́ка, тым зэло́м окру́тять. Рд.

ЗЭЛЭНЭ́ЦЬ м. Рэлігійнае свята "пэрад Пэтро́м і Йва́на", калі свяцяць зелле. Тр.

ІГЫ́ часц. Так. — Чы ты́ ўжэ йі́ла? — Ігы! С.

ІЗГЫ́ДЫТЫ дзеясл. Зганіць, абгаварыць. Рд.

ІСЁНКА ж. Ст. Гл. е с́ ё н к а.

ЙІ́СТЭ Е́ДРА Р. Гл. е́ д р а.

ЙІ́ДЛО н. Апетыт. Ра́ньчэ мны́го йі́ла, а тэпэ́р вжэ ныма́ й половы́ны то́го йі́дла. М.

КАБЛУ́К м. 1. Дэталь касы: дуга з нацягнутым палатном, замацаваная на коссі. НП. 2. Кальцо з лазы: частка кашолкі, каша. Рд.

КАЕ́Т м. устар. Сшытак. Рд.

КА́ЙДУП м. Пасудзіна, выдаўбаная з дрэва. По́вны ка́йдуп со́лэ. Р.

КА́ЛДУБІЦЬ [б] м. Драўляная падстаўка ў жорнах, на якой ляжаць камяні: яна зроблена з доўбанай калоды. Пуг.

КА́ЛДУБЭЦЬ м. (наз. скл. мн. л. — к а́ л д у п ц і). 1. Бочачка. В. 2. Гл. к а́ л д у б і ц ь. Ка́лдубэць для журно́ў. Рд.

КАЛДУВА́ТЫ дзеясл. міф. Вядзьмарыць, чараваць. Пуг.

КАЛДУ́НСТВО н. міф. Вядзьмарства, чараўніцтва. Пуг.

КАЛДУ́НЬНІК м. міф. Вядзьмар. Рд.

КАЛДУ́НЬСТВО н. міф. Рд. Гл. к а л д у́ н с т в о.

КАЛЫ́ТКА ж. Кашалёк. НП.

КАМІЗО́ЛЬКА ж. Жаночая кофта. Мош.

КАПАЛЮ́Ш м. Бляшаны абажур у падвеснай газавай лямпы. Рд.

КАПО́ТА ж. Сукенка. Надуже́ капо́ту. Р.

КА́ПСЭЛЬ м. Металічная насадка на канцах восей воза, якая не дае з'язджаць колу. У во́зі шты́ры ка́псылі. Рд.

КАПТА́Н м. Жаночая невязаная кофта. В. Д. Т. С.

КАПЭЛЮ́Ш м. В. Гл. к а п а л ю́ ш.

КАРА́МКАТЫСЯ дзеясл. Карабкацца. Пацаны́ лі́зуть, кара́мкаютьця чырыз лома́чьчя яко́есь. Пуг.

КАРА́МКА́ТЫ (ЛІ́С) прым. Лес з крывымі ствaламі, карчакаваты. Рд.

КАРАЧУ́Н м. Крывое і сукаватае дрэва. Крыво́е дэ́рыво, то́е, шо с сучка́мы, то́, ка́э, карачу́н. Рд.

КАРНІ́З м. Рубанак з вузкім напаўкруглым нажом для апрацоўкі аконных шалёвак, штабгобель. Рд.

КАРТО́ПЭЛЬ м. Адзін клубень бульбы. М.

КАЦЯХЕ́ толькі мн. Цвет вольхі, бярозы. Наламнэ́ гуле́к з кацяха́мэ. Р.

КАЧА́ЛКО м. Качалка з рабрыстай ніжняй паверхняй і ручкай на адным канцы; ёй качаюць палатно, якое накручана на в а́ л к о (гл.). В.

КВА́ШАЛНЫ толькі мн. Студзіна, квашаніна. Тр.

КВА́ШАЛНЫК м. Гл. к в а́ ш а л н ы. Гусьтіе квашалнык. В.

КВА́ШЫЛЫНЭ толькі мн. Д. Гл. к в а́ ш а л н ы.

КВА́ШЭЛЬНІ толькі мн. Ст. Гл. к в а́ ш а л н ы.

КВЫ́ТОЧКЫ толькі мн. бат. Галінзога дробнакветкавая. Іды́ нарвы́ квыточо́к для порося́ты. Тр.

КВЫЧА́ТЫ дзеясл. Скавытаць, вішчаць (пра свіней). Свынка, вэпрык квычыть, свыні квычать. Рд. КВЫЧЯ́ТЫ, КВЫЧЯ́ТЬ. Б.

КЕ́ЛБ м. заал. Пячкур. Тр.

КЕ́ЛБЫЧОК м. памянш ад к е́ л б (гл.). Ке́лбычка зловы́в, ке́лбычкув налувы́в. Тр.

КІ́ЗЬ-КІ́ЗЬ-КІ́ЗЬ! выкл. Так клічуць коз. Рд.

КІЛІ́ШОК м. 1.Стограмовая шклянaчка. Рд. 2. Чарка, кілішак. К.

КІ́НСЬКЫЙ ШЧЫБЭ́РЭЦЬ м. бат. Чабор звычайны (?). С.

КІ́РГАН м. Шматок пашы, ці сенажаці, ці лесу сярод палей. Пуг.

КІРУ́Х м. Страўнік жывёлы, кіндзюк. Кіру́х ужэ́ по́ўны, бо натупта́лэ за́тувкэю. Р.

КІТА́ЙКА ж. Яркая стужка. Ст.

КІ́Ш м. 1.Кош, кашолка (для капання бульбы). НП. 2. Вялікая

Мядзьвядзіца. Р.

КЛАДОВЫ́ТЫСЯ дзеясл. Стваращца (пра акалічнасці). Ужэ тры́ ра́зы мні́ сме́рть кладовы́лася (= "Тры разы амаль не памёрла"). Рд.

КЛАМА́Ш м. Чарніліца. Я́ пубэ́ла кламашэ́ (адз. лік). Р.

КЛІ́ТКА ж. устар. (наз. скл. мн. л. — к л і́ т к ы). Кубаметр, складаметр (дроў). Два́ мэ́тра длыны́, пуу́мэтра шыроко́сьці: тыпэ́р ка́жуть мэ́тры, а тогді́ говоры́лы клі́тка а́льбо осьму́ха. Рд.

КЛО́ н. (наз. скл. мн. л. — к л а́). Клык дзіка. Як ву́н стрі́льну́ — попа́ў якра́з у рі́йу́ (гл.) і вы́бну ё́му кло́. Попа́ло на той бю́к [б], шо ву́н кло́ вы́бьу́. Рд.

КЛОБУ́К м. бат. Бярозка палявая. Рд.

КЛЭ́-КЛЭ́-КЛЭ́-КЛЭ́-КЛЭ́-КЛЭ́-КЛЭ́-КЛЭ́ гукаперайм. Клёкат бусла. Та́к бу́сныкы клэкотя́ть. Рд.

КЛЭКОТІ́ТЫ дзеясл. Клекатаць (пра буслаў). Бу́сныкы клэкотя́ть, а як дё́н, то клэкоты́ть. Рд. Бу́снэ клэкэ́чуть — бу́дэ до́шч. Бу́сэнь клэкэ́чэ. Р.

КЛЮ́ЧКА ж. НП. Гл. г р а́ н к а 2.

КНЫ́БЫЛЬ м. НП. Гл. д э́ р э в о.

КНЫ́ГА ж. Кнігаука. Кны́гы кыгы́кають та́к: кыгы́-кыгы́. Рд.

КНЭ́ГА ж. П. Гл. к н ы г а.

КОБА́НЯ ж. (наз. скл. мн. л. — к у б а н і́). Упадзіна, выбітая жывёлай і запоуненая вадой, выбоіна. Мыжы боло́том е́, як вы́б'е скуты́на,— брю́д; у то́му бру́довы вуда́ стойі́ть, то коба́ня. Рд.

КОБРЮ́ТОК м. (наз. скл. мн. л. — к о б р ю́ т к ы). Калаўротак, калаўрот. З дэ́рыва така́я пря́ха. Рд.

КОВРІ́ТОК м. Гл. к о б р ю т о к. Шэ вун коврітка ны здзіймаў з горы́; шэ лыжы́ть куде́ля ны пре́джэна. М. Шо ў возу́, шо ў

коврі́тку — всэ одно́. Рд.

КО́ВРОТ м. Брамка, весніцы. Ст.

КОВРО́ТКА ж. В. Пуг. Гл. к о б р ю́ т о к. С коўро́ткы мота́ють на клупкы́. Праду́ть на коўро́тцы і вырытёнамы. В.

КОВРО́ТОК м. Гл. к о б р ю́ т о к. Н.

КОВТУ́Н м. зневаж. Гурт людзей. Зобра́лысь, як то́й ковту́н. Тр.

КО́ДЛО н. Вы́вадак. Ко́дло качо́к пошло́ до воды́. Ко́дло цыпыне́т. НП.

КОЖУ́Х м. Гл. з д ы́ м к ы 2. Такы́й кожу́х е на тэ́му боло́ты: вуда́ зрыва́е кожу́х од шчы́рцу (гл.). На тэ́му кожухо́вы гуйда́тыся мо́жна. Рд.

КО́ЗЛІКЫ толькі мн. Невялічкія ко́злы для з а́ п ы ч к а (гл.). Тр.

КО́ЗЛЭ толькі мн. Звычайныя жалезныя вілы. Р.

КОЗУ́ЛІ толькі мн. бат. Руск.: ежевик пёстрый (грыб). *Sarcodon imbricatum (=Hydnum imbricatum)*. Р.

КО́ЗЫ толькі мн. бат. Рд. Гл. к о з у́ л і.

КОКОДА́КАТЫ дзеясл. Кудахтаць. Ку́рка кокода́чэ, як яйцэ́ знысэ́, то кукуда́чэ. Рд. Ку́рыця, як йіцэ́ знысэ́, то кокода́чэ. В.

КОЛДУВА́ТЭ дзеясл. міф. П. Гл. к а л д у в а́ т ы.

КОЛДУ́НЬНІК м. міф. Рд. Гл. к а л д у́ н ь н і к.

КОЛО́ДЗЯДЗЬ м. Крыніца. Коло́дзядзь — глыбо́ка я́ма, дэ жывэ́ вода́. М.

КОЛО́ДЫЦЯ ж. Калодка (у коле воза). НП. Ш.

КОЛО́ТКА ж. Тр. Гл. к о л о́ д ы ц я.

КОЛУДЁК м. Нож з драўляным тронкам. Ню́ж-колудёк, бу то́ кулі́тка [л] дырыв'яна. Рд.

КОЛЫ́ШКА ж. 1. Рыбалоўная перасовачная лавушка з адным адкры-

тым заходам (яна сплецена з лазы). Тр. Рд. Як та́я ві́дьма умы-ра́ла, то застау́ляла нывысткы́ свойі́, шоб воны́ йийі́ колыха́лы ў колы́шкы, плэтёна така́, ў ту́й, шо ры́бы ло́улять. Рд. 2. Калыска. Колы́шка для дытюка́. Рд.

КО́ЛЬБА ж. 1. Ручка кола сячкарні, тачыла. Цуг. Рд. 2. сталярн. Калаўрот. Рд.

КОЛЮ́ЧКА ж. бат. Чортапалох. С.

КОЛЯНЫЙ дзеепрым. Расшчэплены ўдоўж на дзве часткі (корань хвоі, каб плесці кашолкі і карзіны). Ко́шычкы плэту́ть с курі́нь-ноу хво́йі, ко́рэні коля́ныйі. Тр.

КОМЫЛГА́ ж. бат. Нарасць на дрэве (на хвоі, на бярозе). Рд.

КОПНЯЧО́К м. памянш. Стажок сена, капа. П.

КО́РМНЫК м. Парсюк на адкорме. Д.

КОРОВА́Й м. Каравай (пякуць на вяселлі і раздаюць гасцям). НП.

КОРО́ПКА ж. Сплеценая з саломы пасудзіна, з якой сеялі зерне. НП.

КО́РЧ м. Сутарга. Ко́рч зайшо́у у голю́нку (гл.). Ку́рчі [ч] захо́дять ў но́гу цы ў ру́ку. Рд.

КОРЫ́ТО н. Частка тачыла, у якой намочваецца камень. Тр.

КО́С м. (наз. скл. мн. л. — к о с ы́). Дрозд чорны. Рд.

КОСТЭ́Р м. Касцёр (дроў). Два́ кустры́ дроў нарубау́. Рд.

КОСЯ́К м. сталярн. Малка. Рд.

КО́ТЫ мн. л. (в. Велькорыта Маларыцкага раёна). Гл. к о з у́ л і.

КОЎРЮ́ТОК м. Гл. к о б р ю́ т о к. Коурю́тка зробы́у ясыно́ва, ясыні́у коурю́ток. Ра́ньче на коурю́тках пря́лы. Рд.

КО́Ц м. Пакрывала. П. Р. Тонкая коўдра. Зьмо́ю ны накрыва́ються ко́цом, бо хулудно́. Р.

КО́ШАНКА ж. Сенажаць, дзе скасілі траву. НП.

КОШТЭ́ЛЯ ж. Сорт яблык. Тр.

КРАВА́ВНЫК м. бат. Крываўнік звычайны. Шука́й крававны́ку. Прыклада́йіш ёго́ до ра́ны і ві́н кро́в остана́влюе, кро́в утыхомля́е. Тр.

КРА́М м. Белы матэрыял. Із кра́му пушэ́ла на́вулучкэ. Р.

КРАСЮ́К м. бат. Асавік, падасінавік. Ст.

КРАСНЯ́К м. бат. С. Гл. к р а с ю́ к.

КРАСОГА́ ж. Назва хатняй кветкі. Рд.

КРА́СОХА ж. Назва птушкі. На ю́й тако́е пі́р'я, як на па́вы, уся́кэ пі́рлячко. Рд.

КРАТУ́НКА ж. Спадніца (з усякага матэрыялу). Ст.

КРА́ЎЧАТЫ дзеясл. Квакаць (не так: "ква-ква"..., а "скрыгатаць"). Жабы́ краўча́ть. В.

КРУГЫТА́ТЫ дзеясл. Вішчаць (пра парасят). Порося́та кругы́чуть. В.

КРУЖО́К м. Засланка да печы. (На самай справе яна мае форму трапецыі). Рд.

КРУЖО́ЛКА ж. Частка калаўротка (вертыкальная і гарызантальная дэталі), у якую ўстаўляешча п о́ т ю с — да яго прымацоуваешча кудзеля (прасніца). Рд.

КРУ́ТО прысл. Хутка, скора. Та́я ба́ба кру́то гово́рыть. М.

КРУТЮ́ЛКА ж. Калато́ўка (мешалка). Для свыны́й карто́плі варымо. Уса́дыш у чыгу́н, почнэ́ш круты́ты, росколо́тыш. Рд.

КРУ́ЧА ж. 1. Вір. Попа́ў у кру́чу і ны вы́плывэ. Рд. 2. Завіруха, завея, мяцеліца. Така́я кру́ча, шо й соба́кы ны вы́гнаты з бу́ткы надвю́р [в]. Рд. Кру́ча — як сні́х кру́тыть. Рд.

КРУЧЕ́ЧОК м. 1. Кручок, зроблены з тоўстага дроту,— здымаць камфоркі. 2. Кручок, каб вешаць адзенне. Пуг.

КРУШНА́Я прым. ж. Ломкая, крохкая. Вырба́ крушна́я, ны лі́зь, бо вырбы́на крушна́я — впадэ́ш. Р.

КРЫВАВНЫ́К м. С. Ст. Гл. к р а в а в н ы́ к.

КРЫЖА́К м. 1. Асноўная частка матавіла: крыжавіна, якая накладаецца на вертыкальны кіёк. 2. устар. Назва ўсяго матавіла. Ра́ньчы каза́лы крыжа́к, а тыпэ́р — мотовы́ло. Рд.

КРЫЖА́НКА ж. бат. Садовая астра кітайская. Тр.

КРЫЖІ́ толькі мн. Т. Гл. к р ы ж а́ к 2.

КРЫЖУВА́Я ДУРО́ГА ж. Скрыжаванне. Застанувэлэся на крыжувій дурозэ. Р.

КРЫНЦЭ́ЛЬКА ж. Сорт яблык. Б.

КРЫНЫ́ЧЫНА ж. Дрыгва, твань, багна. Н.

КРЭ́ДА ж. Каляровы каранда́ш. Мош.

КУ́БАРКА ж. Выемка ў печы. У ку́барцэ ложу́ть запа́лкэ. Р.

КУ́БОК м. 1. Конаўка. В. Мош. НП. Тр. Ш. 2. Кубак. К.

КУВА́-КУВА́-КУВА́ гукаперайм. Крык сыча. Сы́ч крычы́ть так уночі́. Рд.

КУВРІ́ТОК м. Ст. Гл. к о б р ю́ т о к.

КУВРЫТОК м. К. Гл. к о б р ю т о к.

КУВУРО́ТКА м. Д. Гл. к о б р ю́ т о к.

КУЖЮ́ЛКА ж. Рд. Гл. к р у ж ю́ л к а.

КУЭЛЭ́ толькі мн. Вілы. В на́шуго сусі́да вэ́льме до́брэ куалэ́. Р.

КУ́КА ж. дзіцяч. Болька, рана. Д.

КУ́КЛА ж. бат. Назва расліны (куко́ль?). Ку́кла — зэло́ такэ́ е́: ды́кі куклы́ і свуй́ські куклы́. Рд.

КУ́КО прысл. Колькі. По ку́ко коўбаса́? Рд.

КУЛА́К м. Дуля, кукіш. О́т дала́ кулака́ пуд ну́с. Рд.

КУЛІ́СОК [л] м. Не да конца абмалочаны сноп. Куліска [л]

ны вітэру́сюють (г. зн. "не выбіваюць усё зерне"). Р.

КУЛІ́Ш м. Малочны суп з проса. Д. Р. Ма́тэ звара́ла кулі́ш з мулуко́м. Р.

КУЛІ́ШЬ м. Рэдкая свіная яда, прыгатаваная з варанай бульбы, круп і мукі. Р.

КУЛО́ДЫЦЯ ж. Рд. Гл. к о л о́ д ы ц я.

КУ́ЛЬКА ж. 1. Кульба, кульбака. Р. 2. Ручка касы. Тр.

КУ́ЛЬША ж.: Сі́но кла́стэ на ку́льшу — ны бу́дэ псо́ватысь. Р. Г. зн.: "класці сена па краях воза, каб не ссоўвалася".

КУЛЭ́НЬКА ж. Луста хлеба. Д.

КУЛЭ́СКА ж. Калыска (на круглых палазках, стаячая; падвесная — н э́ н ь к а (гл.)). Р.

КУЛЭ́ШНЯ ж. 1. Павець, паветка, патпаветка (для дроў). Д. М. П. 2. Прылада, каб рабіць кола для воза, надзяваць вобады на кола. Кулэ́шня — слі́н [л] такэ́й, ро́блять кулэ́са, шча́влюють, во́буда наклада́ють. Р.

КУЛЮ́ЧКЭ толькі мн. бат. (ужываецца часцей, чым в о́ в ч ы к э — гл.). Кл.

КУ́МАТЫ дзеясл. Квакаць (не "ква-ква", а "ку́ммм — ку́ммм"). Жа́бы та́к ку́мають:

— Ку́м — кума́,
Позы́ч цулутна́.
— Нашчо́ цулутно́?
— Дыты́на ў́мырла́!
— Дэ́ лыжы́ть?
— Пут столо́м.
— Чы́м накры́та?
— Постоло́м. Рд.

КУМІ́РНЫЦЬ м. Манжэта. Д.

КУ́МКАТЫ дзеясл. Гл. к у́ м а т ы. Жаба ку́мкае то́ўшчым го́лосом. В.

КУ́МКАТЭ дзеясл. 1. Гл. к у́ м а т ы. Зно́в жабэ́ ку́мкають, бу́дэ до́ждж. 2. Куксіцца, скардзіцца. Ну чуго́ тэ́ всё ку́мкайіш, о́т вжэ го́рэ с сі́тым мала́м. Д.

КУПА́ЛЬНІК м. Доўгая спадніца з грубага саматканага матэрыялу, якую надзявае жанчына капаць бульбу. Д.

КУПРЫ́ЦЯ ж. Драўляная ці жалезная планачка ў верхнім камені жорнаў, якая ўздзяецца на шпянёк ніжняга каменя, на в ы р н т ё́ н о (гл.). Рд.

КУПЧИ́СЬКО н. павеліч. ад. к у́ б о к. Вялікая конаўка. Тр.

КУПЫНА́ ж. зборн. Купіны на балоце. Самэ́ купэ́ — сама́ купына́, купэ́ля. Вэлікэ на було́тэ купэ́, трава́ рустэ́, вышэр. Р.

КУПЫНИ́СТЭ прым. н. Купістае, купінаватае (балота). Купы́нистэ було́то — уно́ гуйда́етця про́сто высно́ю. М.

КУПЭ́ЛЯ ж. Гл. к у п ы н а́.

КУ́РАЎКА ж. Імжа, імга. Рд.

КУРГА́Н м. (ужываецца радзей, чым к і́ р г а н — гл.). Пуг. Мэжы по́лэм нызо́вына, лысо́к рустэ́ — то то́ курга́н. Рд.

КУРДУ́ПЫ толькі мн. Бульба. Ра́ньче каза́лы ны карто́шка, а курду́пы. Рд.

КУРО́В'І ФУ́СТ м. бат. Аслiннiк двухгадовы. Рвэ́мо і свя́тымо в цэ́ркві ты́йі фу́сты. Бага́то у на́с тых фу́стоў [т]. Тр.

КУ́РЫ мн. л. бат. (в. Высокае Камянецкага раёна). Гл. к о - з у́ л і.

КУ́РЫНА СЛІПОТА́ ж. бат. Казялец едкі. Тр.

КУ́СНИКЭ толькі мн. Тонкія карэньчыкі цыбулі. Р.

КУСТЫРО́В ж. бат. Каласоўнік (касцёр) мяккі (?). Д.

КУСТЭРО́ВА ж. С. Гл. к у с т ы р о́ в.

КУСЬТЕ н. Кассё, касільна. Тр.

КУСЭСЬКО н. павеліч. Вялікі кавалак чаго-небудзь. Шэ е добрый кусэсько хліба. Р.

КУСЯК м. сталярн. Зензубель. Кусяк — рямы одбыраты, шалёўкы до двырый выробляты. Рд.

КУТАСЫКЫ толькі мн. бат. Канюшына чырванаватая раллявая. Тр.

КУТОК м. рэліг. Покуць. В кутковы ікона вісыть. Тр.

КУТЯ ж. Ячная каша. Ст.

КУХОР м. Куфар, скрыня. НП.

КУЦЯХЕ толькі мн. Махры. У тэбэ в пурткове (гл. п у р т о к) е куцяхе. Р.

КУЧА ж. Адгароджанае ў хляве месца для жывёл. Ст.

КУЧКА ж. 1. Гл. к у ч а. Д. П. 2. Пячурка (ямка з боку печы, дзе сушаць што-небудзь). Д. Рд. Пулужэ, дочычко, запалкэ в кучку. Д. 3. Снапок ільну. Нарвала всюго дватцыть кучок льну. Д.

КЦІСЬ-КЦІСЬ гукаперайм. Так падзываюць кошак. П.

КНЫГЫ-КНЫГЫ! гукаперайм. Кігіканне кнігаўкі. Рд. Гл. к н ы г а.

КНЫГЫКАТЫ дзеясл. Кігікаць (пра кнігаўку). Рд. Гл. к н ы г а.

КЫЛАВА КАПУСТА ж. Капуста з наростамі на корані. М.

КЫЛУН м. Чалавек з грыжай. Рд.

КЫЛІШОК м. Тр. Гл. к і л і ш о к.

КЫЦІСЬ-СЬ-СЬ — КЫЦІСЬ-СЬ-СЬ выкл. Так падзываюць кошак. Д.

КЭМПЫ мн. л. Паглыбленне пад коранем вывернутага дрэва. Такыйі кэмпы е: сосны бура вывалыть, зэмлю вывэрнэ — і там як

я́ма. Рд.

КОНЬСЬКИЙ ШЧАВУХ к м. Шчауе конскае. Тр.

ЛА́ГВІЦА ж. Невялікая бочка для захавання сала. П.

ЛА́ГВІЦЯ ж. Гл. л а́ г в і ц а. Ла́гвіцю ро́бять з дубо́віх душчо́к. Р.

ЛА́ГВИЦЯ ж. Драўляная скрыня для засолкі сала. Д.

ЛАГО́ШИ толькі мн. Доўгія палкі, якія ўстаўляюцца ў драбіны воза, каб больш палажыць снапоў. НП.

ЛА́НЫЦА ж. Зашчапка, якая рэгулюе становішча ствала паляўнічай стрэльбы — гарызантальнае ці з надломам. Рд.

ЛАПА́СТИЙ (СНІ́Г) прым. Снег, які падае камякамі. Тр.

ЛА́Р м. Высокая і вузкая драўляная скрыня з векам для захавання мукі або збожжа. Ла́р: зырно́ сы́плють, як е́ мны́го, муку́ сы́плють, ў ла́р закы́нуть і та́к стуйі́ть. Рд.

ЛА́СЫЦА ж. заал. Ласка. Ла́сыца ў ну́рі жывэ́. Рд.

ЛА́СЫЦЫ толькі мн. Марозныя ўзоры на вокнах. Ла́сыцы на о́кнах ны тта́ють. Со́нцэ прыгрі́е — ла́сыцы тта́нуть. Рд.

ЛА́СЫЦЭ толькі мн. Гл. л а́ с ы ц ы. В о́кнах ла́сыцэ пуста́валэ. Че́сом закэно́ ла́сыцямэ, шо й шкла́ ны вэ́дно. Р.

ЛА́СЫЦЯ ж. Гарнастай. Ла́сыця — мале́нька така́, бі́ла. Рд.

ЛАТУ́ХА ж. Старажытнае доўгае верхняе адзенне з саматканага грубага сукна — саматканая світка. Д. Рд. Ра́ньче латухы́ такі́ шы́лы. Лату́ху пукажы́ ту́ю свою́. Рд.

ЛАТУ́ШКА ж. Гл. л а т у́ х а. Свы́тына — жэ́нска, мушчы́ньська, чолові́цька — лату́шка. В.

ЛА́Х м. Лахман, рызман. Бэру́ть накладаю́ть на нэ́йі ла́ха старэ́йкого. Рд.

